ГРОДНА
№23 (575),
19 снежня 2021

# СЛОВА ЖЫЦЦЯ

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## Абрад вігілійнай вячэры



senior.pl

*Вігілія Божага Нараджэння з’яўляецца прыгожым і кранальным часам. Глыбокае ўспрыняцце гэтага вечара яднае родных, пакідаючы ў сэрцы прыемныя ўспаміны.*

*на старонцы* **2**

## Святы і мінімалізм: кропка судакранання



pinterest.co.kr

*Як можна прымяніць мінімалізм з максімальным клопатам аб навакольным асяроддзі?*

*на старонцы* **5**

## Механізмы сужэнскай здрады



inrelatio.pl

*Сужэнская нявернасць і з боку мужчыны, і з боку жанчыны мае сваю прычыну.*

*на старонцы* **6**

# “НІКОЛІ НЕ ДУМАЎ, ШТО ПАРАФІЯ МОЖА ТАК ГЛЫБОКА ЗАПАСЦІ Ў СЭРЦА СВЯТАРА”. КАЛЯДНАЯ ГУТАРКА З ВЯСКОВЫМ ПЛЯБАНАМ



*Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Новым Двары*

**Для значнай колькасці беларусаў вёска з’яўляецца крыніцай самых трапяткіх успамінаў. Святочны стол у гэтым “ландшафце” займае не апошнюю ролю. На жаль, святкаванні ў вясковых хатах малеюць, старэйшае пакаленне адыходзіць, а моладзь гуртуецца вакол гарадоў. Аднак ёсць дні, калі колькасць жыхароў вёсак павялічваецца ў разы. Напрыклад, калі “горад” едзе на каляду да сваіх. Пра гэта размаўляем з навадворскім пробашчам кс. Юрыем Кузьмічам.**

*на старонцы* **3**

# ДЗІВОСНАЯ ІСНАСЦЬ БАТЛЕЕК



**Сьюзан Уэбер паходзіць з Санта-Фе (ЗША), дзе на працягу 40-а гадоў трымае краму з самай вялікай у яе разнастайнасці калекцыяй батлеек. У сваім захапленні жанчына пайшла далей, выдаўшы кнігу “Nativities of the World” (“Батлейкі свету”), дзе сабрала фотаздымкі найбольш цікавых і незвычайных інсцэніровак нараджэння Хрыста з прыватных калекцый.**

*на старонках* **4–5**

СЛОВА РЭДАКТАРА

# Дарагія Чытачы!

Падчас надыходзячых свят Божага Нараджэння нас, напэўна, чакае шмат розных сустрэч і нагод, каб наведаць асабліва блізкіх нам асоб.

Бэтлеемскія пастухі хочуць паказаць, што сапраўды добрымі, радаснымі і павучальнымі з'яўляюцца ў нашым жыцці сустрэчы, на якія мы ідзём разам з Езусам. Так, як гэта зрабілі яны, пакідаючы ўбогую стайню, забіраючы Езуса ў сваіх сэрцах.

Мы як хрысціяне пакліканы і запрошаны па іх прыкладзе несці Езуса ў нашых сэрцах кожнаму чалавеку, якога сустракаем на дарогах свайго жыцця, не толькі падчас свят, але і ў самых празаічных і паўсядзённых сустрэчах.

Мы ўсведамляем, што самі не накормім усіх галодных, не забяспечым дах над галавой бяздомным, але, уносячы Езуса ў жыццё хоць бы некалькіх патрабуючых, мы дапаможам ім вярнуць сэнс гэтага жыцця. Дапаможам зразумець, што не ўсё страчана ці прайграна, што яны яшчэ могуць падняцца з дапамогай іншых.

Давайце занясём і падорым Езуса нашым блізкім, сябрам, суседзям, выпадковым людзям, і мы зробім гэтыя Каляды сапраўды шчаслівымі для іх!



ks. Jerzy Martinowicz

КАЛЯНДАР

**24 снежня**
***Вігілія Божага Нараджэння.***
*Вігіліяй каталікі распачынаюць святкаванне Божага Нараджэння. Гэта адно з найважнейшых свят у літургічным годзе, падчас якога вернікі разважаюць над таямніцай Уцелаўлення. У нашай традыцыі гэты дзень падкрэслены посным характарам, калі не ядуць мяса, а ўрачыстая вячэра пачынаецца, калі на небе загараецца першая зорка. Найважнейшы момант каляднай вячэры – дзяленне аплаткай у знак згоды і прымірэння.*

**25 снежня**
***Урачыстасць Нараджэння Пана.***
*Найглыбейшы сэнс урачыстасці Божага Нараджэння выяўляецца ў тым, што Бог прымае люд, гатовы слухаць Яго. Езус Хрыстус быў пасланы ў гэты свет і стаў нашым Братам. З Ім мы пакліканы ўдзельнічаць у Божай веліччы. Усе, хто прымае Хрыста з верай і любоўю, становяцца дзецьмі Божымі і атрымліваюць з Яго паўнаты ласку за ласкай.*

**26 снежня**
***Свята Святой Сям'і.***
*Свята Святой Сям'і адзначаецца ў Каталіцкім Касцёле ў першую нядзелю пасля Божага Нараджэння. Гэта нагода памаліцца за сужэнскія пары і сем'і, а таксама папрасіць аб святасці для іх.*

**1 студзеня**
***Урачыстасць Святой Багародзіцы Марыі.***
*У актаве Божага Нараджэння, дзякуючы Богу за прыйсце на свет Хрыста, Касцёл адзначае свята ў гонар Маці Божай, праз якую споўніліся дадзеныя ўсяму чалавецтву абяцанні, звязаныя з таямніцай Адкуплення. У гэты дзень з усіх якасцей Марыі мы асабліва ўшаноўваем Яе Мацярынства. Дзякуем Ёй таксама за тое, што сваёй мацярынскай апекай Яна ахінае ўвесь Народ Божы.*

**6 студзеня**
***Урачыстасць Абʼяўлення Пана (Тры Каралі).***
*Традыцыя, заснаваная на трох шчодрых дарах, якія паднеслі магі – золата, ладан і міра, – вызначае іх колькасць, узрост, колер скуры і сімволіку. У VI стагоддзі іх надзялілі каралеўскімі тытуламі і світай, а ў IX стагоддзі – імёнамі: Каспер, Мельхіёр і Бальтазар. З часам склаўся вобраз, што яны ўяўляюць сабой тры вядомыя часткі свету: Еўропу, Азію і Афрыку.*



# АБРАД ВІГІЛІЙНАЙ ВЯЧЭРЫ Ў СЯМ'І

*працяг са с. 1*

## ПАРАДАК ВІГІЛІЙНАЙ ВЯЧЭРЫ

На цэнтральным месцы ў пакоі ставяцца яслі з фігурай Дзіцятка Езус. Стол засціlaецца белым абрусам (можна аздобіць яго яловымі галінкамі). Пад абрусам змяшчаецца сена. Пасярэдзіне стала ставіцца вігілійная свечка, святло якой з'яўляецца сімвалам прысутнасці Хрыста. Побач кладзецца Біблія і аплатка.

Калі на небе з'яўляецца першая зорка, на ўспамін Бэтлеемскай зоркі, сям'я збіраецца за вігілійным сталом. Адно месца пакідаецца вольным як знак памяці пра памерлых блізкіх і пра падарожнікаў, якія неспадзявана могуць пастукацца ў дзверы.

Усе стаяць, а старэйшы член сям'і запальвае свечку. Пасля гэтага кажа: *Гэта Святло, якое сённяшняй ноччу прыйшло на зямлю, каб рассеяць цемру граху.*

**Усе адказваюць:** *Дзякуй Богу.*

**Кіраўнік:** *У імя Айца і Сына, і Святога Духа.*

**Усе:** *Амэн.*

Бацька ці старэйшая асоба з сям'і чытае фрагмент Евангелля паводле Лукі:

*"У тыя дні выйшаў загад ад цэзара Аўгуста зрабіць перапіс па ўсёй зямлі. Гэта быў першы перапіс падчас панавання Квірынія ў Сірыі. І пайшлі ўсе запісвацца, кожны ў свой горад. Пайшоў таксама і Юзаф з Галілеі, з горада Назарэта, у Юдэю, у горад Давіда, званы Бэтлеем, бо ён быў з дому і роду Давіда, каб запісацца з Марыяй, заручанай з ім, якая была цяжарнай. А калі яны былі там, надышоў Ёй час нарадзіць. І нарадзіла Сына свайго першароднага. І спавіла Яго, і паклала ў яслі, бо не было ім месца ў заездзе. У той ваколіцы былі на полі пастухі, якія вартавалі ўначы свой статак. Раптам з'явіўся ім анёл Пана, і хвала Пана асвяціла іх, і вялікі страх ахапіў іх. І сказаў ім анёл: «Не бойцеся, я абвяшчаю вам вялікую радасць, якая будзе для ўсяго народа, бо нарадзіўся вам сёння ў горадзе Давіда Збаўца, якім ёсць Хрыстус Пан. І вось вам знак: знойдзеце Немаўля, спавітае і пакладзенае ў яслях». І раптам з'явілася з анёлам вялікае войска нябеснае, якое праслаўляла Бога і ўсклікала: «Хвала на вышынях Богу, а на зямлі спакой людзям добрай волі»" (Лк 2, 1–14). Гэта слова Пана.*

**Усе:** *Хвала Табе, Хрыстэ.*

Затым спяваецца калядка.

## СУПОЛЬНАЯ МАЛІТВА

Бацька ці маці прамаўляе просьбы, усе адказваюць: "Выслухай нас, Пане!".

**К:** *Божа, наш Ойча, у гэтую ўрачыстую гадзіну праслаўляем Цябе і дзякуем за ноч, калі паслаў у свет свайго Сына Езуса Хрыста, нашага Пана і Збаўцу. Просім Цябе, удзялі нашай сям'і дар любові, згоды і супакою. Цябе просім…*

**У:** *Выслухай нас, Пане!*

**К:** *Адары нашых суседзяў, сяброў і знаёмых супакоем гэтай ночы. Цябе просім…*

**У:** *Выслухай нас, Пане!*

**К:** *Усіх пакінутых, самотных, хворых, бедных, галодных ва ўсім свеце суцеш і ўмацуй Добрай Навінай гэтай святой ночы. Цябе просім…*

**У:** *Выслухай нас, Пане!*

**К:** *Нашых памерлых* (пералічыць імёны) *адары шчасцем і святлом Тваёй хвалы. Цябе просім…*

**У:** *Выслухай нас, Пане!*

**К:** *Пане Божа, Ты ўчыніў, што гэтая святая ноч зазянела бляскам сапраўднага святла Твайго Адзінароднага Сына. Учыні, каб і мы яснелі бляскам Твайго святла ў сваім штодзённым жыцці. Праз Хрыста, Пана нашага. Амэн.*

Усе адгаворваюць малітву "Ойча наш".

## ЛАМАННЕ АПЛАТКАЙ І ПАЖАДАННІ

Абрад ламання аплаткай вучыць, што нават апошнім кавалкам хлеба трэба дзяліцца з бліжнімі, і разам з тым прыгадвае, што Божы Сын стаў Чалавекам і ўстанавіў Эўхарыстыю.

**К:** *А цяпер у духу любові і прабачэння падзелімся аплаткай – хлебам любові. Зычліва раскрываючы свае сэрцы ва ўзаемнай любові, мы адкрываем іх на прыход Пана. У Ім кожны чалавек знойдзе дабрыню і сяброўства. Няхай Бог заўсёды будзе ў нашым доме.*

Бацька сям'і складае пажаданні і ламаецца аплаткай спачатку з маці, а затым з астатнімі членамі сям'і. Тое ж робяць усе прысутныя.

## СПАЖЫВАННЕ ВЯЧЭРЫ

На стол падаюцца толькі посныя стравы і безалкагольныя напоі. Спажыванне вячэры павінна праходзіць ў атмасферы сямейнай зычлівасці.

## МАЛІТВА ПАСЛЯ ВЯЧЭРЫ

**К:** *Дзякуем Табе, Божа, наш добры Ойча, за Сына Твайго Езуса Хрыста. Дзякуем за любоў да ўсіх людзей, за гэты вігілійны вечар і дары, якія мы спажывалі. Табе хвала на векі.*

**У:** *Амэн.*

Пасля вячэры святочны настрой падтрымліваем спевам калядак і ўзаемным адорваннем падарункамі. Каля елкі чакаем Пастэркі, на якую, па меры магчымасці, накіроўваемся ўсёй сям'ёй.

# "НІКОЛІ НЕ ДУМАЎ, ШТО ПАРАФІЯ МОЖА ТАК ГЛЫБОКА ЗАПАСЦІ Ў СЭРЦА СВЯТАРА". КАЛЯДНАЯ ГУТАРКА З ВЯСКОВЫМ ПЛЯБАНАМ

працяг са с. 1

Арцём Ткачук



Кс. Юрый Кузьміч – пробашч парафіі ў Новым Двары. Дэкан Шчучынскага дэканата. Святарскае пасвячэнне прыняў у 2004 г.

***– Кс. Юрый, каго больш збіраецца на вялікія святы ў касцёле ў Новым Двары: мясцовых ці прыезджых?***

– Гэта залежыць ад некаторых абставін. Да пандэміі было больш прыезджых. Канешне, збіралася шмат парафіян, але іх родных і блізкіх было прыкладна ў два разы больш. Пасля кавіда гэтая колькасць значна знізілася. Цяпер гасцей, магчыма, у паўтары разы больш. Аднак людзі ўсё роўна прыязджаюць, каб перажываць святы ў блізкім коле.

Але тут усё таксама зменліва – сёлета на Вялікдзень было менш людзей, чым у звычайную нядзелю. Пазней вернікі ўжо крыху прызвычаіліся да пандэміі, то на адпуст іх было болей, на св. Юрыя таксама.

***– А ў Вас ёсць пачуццё, што вось гэтыя госці на Пастэрцы – гэта нібы крыху і Вашы дзеці, якія прыязджаюць у такія важныя моманты і хочуць быць разам?***

– Ёсць такое пачуццё. Я ніколі не думаў, што парафія можа так глыбока запасці ў сэрца святара. Некалі нават на казанні распавядаў, што падаецца: людзей шмат, ксёндз адзін, дзе ўсіх успомніш? Аднак з цягам часу – і гэта Божы дар і цуд! – за кожнага пачынаеш перажываць, як за свайго. Пачынаеш заўважаць, што ў касцёле таго няма, той захварэў, той памёр і яго месца пустое. І гэта праўда, што перажываеш за парафіян, як за родную сям'ю. Так, як Езус казаў: "Будзеце мець і братоў, і сясцёр, і дзяцей".

***– А ці ёсць штосьці такое, як людзі па хатах на вёсках у Адвэнце чакаюць дзяцей на святы, так і пробашч у касцёле рыхтуецца да сустрэчы?***

– Канешне. Можа, больш рыхтуюся, каб свята было не проста для людскога вока, а для духоўнага росту. Свята адзінства, любові, усведамлення таго, што яно з сабой прыносіць. Канешне, хочацца, каб Божае Нараджэнне было часам духоўнага ўздыму, перамен у жыцці людзей.

***– Шмат гасцей – гэта радасць. Але, наколькі разумею, пахаванняў робіцца ўсё больш, а хростаў усё менш. Парафія вымірае?***

– Так, на жаль.

***– Скажыце, як у такім сумным кантэксце сыходжання цэлай цывілізацыі беларускай вёскі Вы шукаеце сэнс Раства? Як наваколле ўплывае на гэты пошук?***

– Гледзячы на ўсё гэта, працягваю верыць у Божыя планы. Бог не памыляецца і ведае, што робіць. Хоць на вёсках больш пахаванняў, чым хростаў, у гэтым таксама ёсць Божы Провід. Яго, канешне, на сёння цяжка зразумець. Да жыцця на вёсцы таксама трэба мець пакліканне і веру, што прыйдзе час, і людзі будуць жыць на гэтай зямлі. Будуць вяртацца на Бацькаўшчыну.

Калі глядзець толькі на тое, што парафія памяншаецца, жыхары адыходзяць, дык тады зусім сумна будзе. У Старым Запавеце людзі таксама былі вымушаны пакідаць сваю зямлю і шукаць ратунку ў іншых мясцінах, але пазней яны вярталіся. Гэтаксама і ў нас. Чалавек выязджае з вёскі і шукае лепшага жыцця ў горадзе, але і ў горадзе жыццё цяжкое. Да вёскі трэба дарасці, адкрыць яе. Таму давяраю і веру Богу, што Ён ведае, што робіць.

***– Прызнацца, нейкі час для мяне было даволі праблематычна прыязджаць на вёску, бо сэрца абліваецца крывёй, калі глядзеў на яе выміранне. Завальваюцца хаты, сцяжынкі, якімі мы хадзілі ў касцёл, ужо даўно зараслі. Як знайсці надзею ў такім мысленні?***

– Я таксама, калі прыязджаю ў сваю родную вёску, шмат успамінаю. І сцяжынкі, і сяброў, і як ездзіў у касцёл. Як з гэтым жыць? Ну як жыць *(смяецца – заўв. аўт.)*... Думаю, тут таксама трэба шукаць сэнс. Умець шанаваць цяперашнюю хвіліну, бо яна праходзіць і яе не вернеш. Трэба вучыцца радавацца часам.

***– Богаўцелаўленне нясе ў сабе шмат свежасці, надзеі. Як пра гэта гаварыць людзям старэйшым, якія ўжо шмат чаго ў жыцці бачылі. Наколькі складана размаўляць з імі пра той вялікі імпульс, які нясе з сабой Божай Нараджэнне?***

– Думаю, наколькі гэта складана, залежыць ад чалавека. Стараюся размаўляць у духу папы Францішка: "Святар павінен пахнуць сваімі авечкамі". Найперш, канешне, спрабую сам зразумець праўду Божага Нараджэння на простых жыццёвых прыкладах. Калі я зразумею яго для сябе, то змагу і іншым патлумачыць. Што ўсё гэта адбываецца не для нейкіх там невядома якіх планаў. Што Божая Веліч спусцілася ў хлеў, каб туды мог прыйсці кожны. Што ўсё гэта здзяйсняецца для мяне асабіста, каб выцягнуць з багны, у якую я на працягу жыцця, магчыма, убоўтаўся.

У Евангеліі Езус таксама тлумачыў усё на простых прыкладах. Рыбакам казаў, што зробіць іх рыбакамі людзей, людзям іншых заняткаў прыводзіў прыклады на даступнай і зразумелай ім мове. Бог падказвае, як зразумець некаторыя рэчы і мне, і людзям. Але і мы тлумачым іх адзін аднаму сваім жыццём.

***– Св. Ян Павел II казаў, што ў дзяцей ёсць перспектыва маладосці, у маладзёнаў – перспектыва дарослага жыцця, у дарослых – перспектыва старасці, а ў старых людзей застаецца перспектыва вечнага жыцця. Якая яна, гэтая перспектыва, у пенсіянераў?***

– Усё залежыць ад чалавека і яго веры. Сустракаюцца розныя людзі. Ёсць тыя, хто марыць, каб як мага хутчэй сустрэцца з Татам. Ёсць тыя, хто сумняваецца, баіцца перспектывы вечнасці. Па розных прычынах. Ёсць таксама перспектыва радасці за дзяцей, унукай, праўнукаў, за іх дасягненні. Усё залежыць ад чалавека.

***– Як Вам сучасны вобраз Раства, з якім мы сутыкаемся на вуліцах, у крамах, у публічнай прасторы ў цэлым?***

– Гляджу на падобнае больш негатыўна, чым пазітыўна. Таму што за ўсім гэтым губляецца сутнасць і мэта Раства. З аднаго боку, Бог прыйшоў мяне выбавіць, аднак за празмернай радасцю мы губляем сэнс. Прасцей набыць падарунак, чым працягнуць руку прымірэння таму, з кім, напрыклад, не размаўляеш. Ці папрасіць прабачэння, ці наведаць самотнага чалавека.

У падарунках няма нічога дрэннага, аднак за мішурою губляецца самае галоўнае. У некаторых краінах ці асяроддзях замест Божага Нараджэння адбываюцца калядныя фестывалі ці кірмашы, і выражэнне "Нараджэнне Хрыста" наўмысна пазбягаюць. Гэта як калі дзіцяці падарыць падарунак на дзень нараджэння, а яно скажа: "Ну ўсё, тата, цяпер ты мне больш не патрэбны". Гэта будзе балюча, смешна і абсурдна. Вось так выглядаюць гэтыя, назавём іх, калядныя кірмашы.

***– У якой меры нашы беларускія католікі паддаюцца на падобны маркетынг?***

– Тут я б таксама спаслаўся на ўжо згаданыя адносіны з верай. Калі яны жывыя, шчырыя і цесныя, то людзі бачаць сутнасць Раства. У сям'і, калі адзін аднаго кахаюць, любяць, адзін з адным размаўляць, то дастаткова толькі слова, сказанага з нейкай іншай інтанацыяй, каб зразумець, што нешта сталася. Так і з Божым Нараджэннем. Чалавек можа набыць і вельмі просты падарунак, але ў ім будзе шмат укладзенага сэнсу, адносін паміж людзьмі.

***– Як Вы адкрываеце Раство па-новаму і змагаецеся з рутыннасцю штогадовага святкавання? Як аднаўляеце свежасць гэтай праўды?***

– Цяпер для мяне гэта вельмі проста. Ідуць гады, і чалавек глядзіць на іншага чалавека. З узростам гэты погляд змяняецца. Як кажа Пісанне, дзіцяці патрэбна дзіцячая ежа, а даросламу – дарослая. У адкрыванні Божага Нараджэння штогод з'яўляецца штосьці новае, зусім іншае. Былі моманты эйфарыі, радасці і падарункаў, а былі моманты глыбіні Божай любові, адкрыцця Божай пакоры.

Упэўнены, што калі мы будзем хацець адкрываць сэнс Раства, то з кожным годам будзем рабіць гэта глыбей і глыбей.

## АКТУАЛЬНА

Ватыканскае радыё

### Апублікавана новае выданне Катэхізіса Касцёла

У Рыме адбылася прэзентацыя новага выдання Катэхізіса Каталіцкага Касцёла, які змяшчае каментарыі 23-ох кардыналаў па розных аспектах вучэння Касцёла. "Сённяшні каталіцызм можна ўбачыць на практыцы, але неабходна багатае веданне дактрыны Касцёла, каб можна было рэалізаваць яго ў жыцці", – адзначае кардынал Франчэска Мантэрызі, архіпрэзбітэр базілікі св. Паўла за Мурамі на пенсіі, адзін з аўтараў каментарыяў.

Прэзентацыя тома, выдадзенага "Tau Edizioni" пад рэдакцыяй Марка Італьяна, прайшла ў санктуарыі Божай Міласэрнасці. З гэтай нагоды таксама адбылася дыскусія аб важнасці хрысціянства ў сучаснасці.

### Выстава калядных ясляў на плошчы св. Пятра

Адкрылася штогадовая выстава "100 батлеек у Ватыкане". Другі раз запар па прычыне надзвычайнай эпідэміялагічнай сітуацыі яна размясцілася на свежым паветры.

На плошчы св. Пятра, у Каланадзе Берніні, размясціліся 126 калядных ясляў з усяго свету. Наведвальнікаў абавязкова зацікавіць кампазіцыя са 100 кг шакаладу. Тут ёсць таксама сцэны Божага Нараджэння, зробленыя вучнямі 30-і школ рэгіёна Лацыё – з паперы, тканіны, корку і дрэва. Наведаць выставу можна бясплатна да 9 студзеня 2021 года з 10.00 да 20.00.

Акрамя таго, 10 снежня ў 17.00 на плошчы св. Пятра адбылася інаўгурацыя галоўных святочных ясляў і елкі.

### COVID-19 прымусіў змяніць планы Еўрапейскай сустрэчы моладзі

Каранавірус у чарговы раз унёс сур'ёзныя карэктывы ў правядзенне традыцыйнага навагодняга моладзевага форуму пад эгідай Супольнасці Тэзэ. Яго ўжо пераносілі ў 2020 годзе.

"Па прычыне абмежаванняў, звязаных з новым вітком пандэміі, на жаль, не атрымаецца перажыць Еўрапейскую сустрэчу ў Турыне, як мы сабе ўяўлялі. Нам вельмі шкада, што мы не зможам вітаць тых, хто ўжо арганізаваў сваю паездку ў канцы года. Дзякуем Цэрквам і жыхарам Турына за ўсе намаганні, зробленыя ў апошнія месяцы", – напісалі браты з экуменічнай супольнасці.

З улікам сітуацыі форум пройдзе ў два этапы: анлайн – у канцы 2021 года, і з фізічнай прысутнасцю маладых людзей – у Турыне ў ліпені 2022 года.

### Малітоўныя інтэнцыі на студзень

**паўсюдная**

Молімся, каб Пан даў нам ласку жыць у поўным братэрстве з братамі і сёстрамі з іншых рэлігій, молячыся адзін за аднаго, з адкрытасцю на ўсіх.

**дыяцэзіяльная**

Молімся, каб Пан благаславіў усіх, хто прыслухваецца да голасу Святога Духа ў час трывання І Дыяцэзіяльнага сінода.

# УМІЛАВАНЫЯ Ў ХРЫСЦЕ ПАНУ БРАТЫ І СЁСТРЫ, ДАРАГІЯ ВЕРНІКІ НАШАЙ ДЫЯЦЭЗІІ!

*"Слова сталася целам і пасялілася між намі". Ян 1, 14*



**Углядаючыся ва ўбогую бэтлеемскую стаенку, у чарговы раз знаходжыся разам з Вамі ў радасным здзіўленні, што Усемагутны Бог стаў Дзіцём і менавіта такім дае нам сябе пазнаць. Ён прыходзіць у свет як слабы, безабаронны Бог-Чалавек, якому патрэбна апека. Прыходзіць канкрэтна да нас, хоча быць намі прыняты і пасяліцца між намі (параўн. Ян 1, 14).**

**З нагоды свят Божага Нараджэння жадаю ўсім дарагім дзецям, любай моладзі, клапатлівым сужэнцам, людзям, закранутым хваробай і цярпеннем, а таксама кожнаму з Вас адкрыць зноў, што найвялікшым шчасцем для чалавека з'яўляецца клопат пра – часамі такую крохкую – прысутнасць Бога ў нашым жыцці і разуменне, што Яму ў дапамогу патрэбны нашы рукі і вусны, наша чулае сэрца і наш час, каб Нараджэнне Любові магло перамяніць нас і жыццё нашых блізкіх.**

**У гэтыя складаныя і неспакойныя з многіх прычын часы няхай святкаванне Божага Нараджэння будзе для нас усіх выклікам і заахвочваннем да дзейнасці дзеля супольнага дабра, да размовы, поўнай павагі, да прабачэння і станаўлення па-над усялякімі спрэчкамі і непаразуменнямі, якія – у святле Пана, які прыходзіць, – здаюцца неістотнымі.**

**Няхай гэта будзе час адкрыцця годнасці кожнай асобы, да чаго нас нястомна заклікае папа Францішак, "бо нельга патрабаваць павагі да сябе самога без павагі да іншых; нельга атрымліваць, калі адначасова не хочам даваць".**

**Няхай гэта будзе час адзінства, любові, надзеі і дабрыні ў кожнай сям'і, нашым грамадстве і краіне, бо сёння Бог аб'яўляецца ў Чалавеку.**

**Хацеў бы пажадаць, каб новы год, які прыходзіць, прынёс толькі добрыя дні, пачуццё бяспекі і ўпэўненасць, што Божая любоў спадарожнічае ўсім тым, хто на яе спадзяецца. Каб гэта быў год, поўны добрых хвілін і добрых людзей вакол.**

**На час супольнага святкавання, актаву Нараджэння Пана і ўвесь год Панскі 2022 ад усяго сэрца Вас благаслаўляю!**

*Аляксандр Кашкевіч*
*Біскуп Гродзенскі*

*Гродна, Божае Нараджэнне 2021 г.*

## ПАЎСЮДНЫ КАСЦЁЛ

**НІДЭРЛАНДЫ.** У каталіцкай базіліцы св. Мікалая ў Амстэрдаме адбылося ўрачыстае ўскладанне рэліквій св. біскупа Мікалая. Кавалак рабра святога раней амаль тысячу гадоў знаходзіўся ў валоданні абацтва Эгмонд на захадзе Нідэрландаў. Незвычайная цырымонія пачалася ў цудоўнай базіліцы, размешчанай недалёка ад Цэнтральнага вакзала ў сталіцы краіны. Ва ўрачыстасці прыняў удзел біскуп Ян Хендрыкс з дыяцэзіі Гарлем-Амстэрдам. У сувязі з пандэміяй на набажэнстве прысутнічала сто чалавек. Аднак яго можна было паглядзець у прамым эфіры праз інтэрнэт.

**ПОЛЬШЧА.** У Варшаве паўстала душпастырства для беларусаў-католікаў. Яго кіраўнік кс. Вячаслаў Барок раней быў пробашчам у парафіі Расоны ў Віцебскай дыяцэзіі. Ён арганізаваў у Варшаве пры касцёле св. Аляксандра на плошчы Трох Крыжоў каталіцкае душпастырства для беларусаў. Святыя Імшы па-беларуску цэлебруюцца ў нядзелі і святочныя дні ў ніжнім касцёле ў 11.30 і 18.00. Пасля св. Імшы можна сустрэцца і паразмаўляць.

**ІСПАНІЯ.** У выніку пандэміі COVID-19 іспанскі Касцёл страціў каля 30% свайго ўплыву – вынікае з ацэнак, праведзеных дыяцэзіямі гэтай краіны. Найбольшыя страты парафіі ў гэтай краіне зафіксавалі ў першыя тры месяцы пандэміі, г. зн. у перыяд красавік-чэрвень, падчас якога дзейнічала прымусовая сацыяльная ізаляцыя. У сваіх зваротах біскупы адзначалі, што, нягледзячы на існаванне ў касцёлах сацыяльнай дыстанцыі і абавязку ўдзельнічаць у набажэнствах у масках, санітарныя службы многіх рэгіёнаў захоўваюць абмежаванні адносна колькасці ўдзельнікаў, якія не адпавядаюць памерам храмаў.

**БЕЛЬГІЯ.** Французскамоўная частка Бельгіі збіраецца адмовіцца ад абавязковых штотыднёвых урокаў рэлігіі ў школах. Іх у Валоніі і Брусэлі павінны замяніць філасофіяй і грамадзянскай адукацыяй. Заканадаўчы праект аб адмене абавязковай рэлігіі на працягу двух гадоў рыхтавалі шэсць палітычных партый: тры ад парламенцкай большасці (сацыялісты, ліberalы і зялёныя) і столькі ж ад меншасці (дзве цэнтрысцкія партыі і асноўная група крайне левых). Замест адной гадзіны рэлігіі і маралі на тыдзень вучні мелі б дзве гадзіны філасофіі і грамадзянскага выхавання. Ініцыятары намераны ўвесці гэтую змену ў школы з 2024 года.

*Падрыхтавана на падставе інтэрнэт-крыніц.*

# ДЗІВОСНАЯ ІСНАСЦЬ БАТЛЕЕК

працяг са с. 1

**У кнізе цудоўна адлюстравана Паўсюднасць Касцёла, бо на фота Дзіцятка Езус прадстае то ў вігваме, то чарнаскуры, то пра народнасць батлейкі сведчыць характэрны матэрыял, з якога яна выраблена. Толькі пасыл застаецца нязменным: прышэсце Хрыста ў кожным закуточку і незалежна ад абставін.**

**Прыведзеныя ніжэй батлейкі не маюць гістарычны каштоўнасці, выключна мастацкую, бо паўсталі ў сучаснасці.**



*Апрацавала Ангеліна Марцішэўская*



### ІТАЛІЯ – БЕДНАСЦЬ, АДЛЮСТРАВАНАЯ Ў РАСКОШЫ

*Гэта прыклад батлейкі ў знакамітым італьянскім стылі барока. Сама кампазіцыя родам з Неапаля. Руіны Рымскай цывілізацыі часта ўключаюцца ў італьянскія батлейкі, датаваныя XVIII стагоддзем, намякаючы на перамогу хрысціянства над паганскім Рымам. Пад нагамі Марыі – кавалак зламанай рымскай калоны, заціснуты пад аркай. Тканіна, што выкарыстоўвалася пры вырабе адзення Марыі і Юзафа – тонкі шоўк. Рукі і галовы тэракотавыя. Антыкварныя экземпляры батлеек каштуюць вельмі дорага, але іх рэпрадукцыі робяць для тых, хто любіць гэты класічны стыль батлеек XVIII стагоддзя. Дадзеная кампазіцыя таксама сучасная, дасягае ў вышыню каля метра і размяшчаецца не толькі ў святынях, але і ў прыватных дамах больш заможных грамадзян.*



### КАЛУМБІЯ – ЯСКРАВАСЦЬ І КІДКАСЦЬ

*Пікапы і джыпы, вельмі папулярныя ў Калумбіі пры перавозцы пасажыраў і розных грузаў, выкарысталі і ў якасці месца першага прытулку Немаўляці Езуса, каб надаць батлейцы сучасныя нацыянальныя рысы. Відаць, што зверху на даху аўтамабіля змешчаны іншы груз, у класічным стылі Лацінскай Амерыкі. Матэрыял вырабу кампазіцыі – гліна.*

ЭКАЛАГІЧНАЯ НІОТА



Алена Майсюк

# СВЯТЫ І МІНІМАЛІЗМ: КРОПКА СУДАКРАНАННЯ

**Надыходзіць час свят. Якія б яны ні былі – рэлігійныя, асабістыя, сямейныя, гарадскія, нацыянальныя, міжнародныя, – рэкламшчыкі заклікаюць: "Пара дарыць падарункі!". Бясконцае спажыванне і сутнасць саміх свят ніяк не звязаны. Разбярэмся, якія падарункі самыя лепшыя для акружаючых. Прыўнясём у сваё жыццё разумны мінімалізм для максімальнага задавальнення.**

працяг са с. 1

**Мінімалізм** – гэта стыль жыцця, а таксама парадак у рэчах, справах, думках. Пазбаўленне ад лішняга, абцяжарваючага. Вызваленне прасторы для новага. Пры гэтым трэба памятаць тры асноўныя прынцыпы:

**1) Якасць, а не колькасць.** Лепш купіць адну добрую дарагую рэч, чым дзесяць сумніўнай якасці. Гэта вырашае адразу дзве праблемы: захламленне і, у некатарай ступені, захаванасць уласных фінансавых рэсурсаў і планеты ў цэлым. Лепшы дарадца – гэта абгрунтаванне самому сабе: навошта мне гэтая рэч, заняткі ці адносіны?

**2) Эмоцыі першасныя, рэчы другасныя.** Замест таго, каб аддаваць грошы на чарговую рэч, мінімалізм прапануе траціць іх на ўражанні, досвед, навучанне, эксперыменты. Матэрыяльнае не мае значэння, калі яно не нясе эмацыянальнага дадатку. Калі б матэрыяльнае было падмацавана эмоцыямі, сусветныя звалкі былі б маленькімі.

**3) Рацыянальнае выкарыстанне.** У аснове любога набыцця ляжыць карысць. Абцяжарваць жыццё лішнім з пачуцця ветлівасці або моднага павеву значыць нагружаць прастору лішнім.

Цяпер паглядзім, як можна прымяніць мінімалізм з максімальным клопатам аб навакольным асяроддзі.

### ПАДРЫХТОЎКА ДА СВЯТА

Чаканне свята ўжо з'яўляецца пачаткам святкавання. У гэты момант хочацца абнавіць прастору, каб адчуць змены, атрымаць новыя ўражанні. Людзі чысцяць і ўпрыгожваюць жыллё, выкідваюць лішняе. Гэта найлепшы момант, каб скарыстацца прынцыпамі мінімалізму.

Пастаўцеся з любоўю да пакояў, у якіх вы жывяце, да акружаючых прадметаў. Не спяшаючыся пачніце размяркоўваць рэчы ў доме, пакіньце толькі патрэбнае, якое нясе функцыянальнасць асабіста для вас. Тое, што ўжо страціла актуальнасць – раздайце, прадайце праз аб'явы. Прыбярыце сапсаваныя рэчы, але не ў кладоўкі, падвалы ці на дачы, а аддайце тым, хто зможа ім надаць новую функцыянальнасць. Цяпер такі кірунак атрымаў назву апсайклінг.

**Апсайклінг** дазваляе па-новаму зірнуць на старыя рэчы – ператварыць іх у новыя, якія валодаюць іншай каштоўнасцю, чым іх першапачатковыя кампаненты. Тое, што, здавалася, больш не будзе выкарыстоўвацца ніколі, становіцца арыгінальнымі прадметамі адзення, аксесуарамі, творамі мастацтва ці нават іншымі электроннымі прыладамі. Такім чынам, скарачаецца колькасць смецця і павялічваецца тэрмін службы тавараў.

Мішуру і іншую святочную атрыбутыку зрабіце з таго, што пад рукой. Надайце прадметам інтэр'ера шматфункцыянальнасць. Напрыклад, пабудуйце елку са стосаў кніг.

### "ЛЕПШЫ ПАДАРУНАК МОЙ – ГЭТА ТЫ"

Існуе меркаванне, што на святы прынята дарыць падарункі. А калі паглядзець інакш: вы прымаеце такое меркаванне грамадскасці ў сваім жыцці? Толькі вы самі можаце пагаджацца ці адмаўляцца ад стэрэатыпаў грамадства. Адзначайце святы з клопатам аб акружаючых вас людзях. Пакідайце прастору чыстай ад залішняга спажывання.

Калі трэба ўручыць рэчавы падарунак, можна падарыць абанемент, сертыфікат, пуцёўку. Гэта развіццё, адукацыя, пазнанне жыцця. Падарыце эмоцыі, уражанні і памяць на доўгія гады, яны неацэнныя для па-сапраўднаму блізкіх людзей. І самае каштоўнае, што можна падарыць, – гэта ваш час.

### ВЫРАЖАЕМ СВАЮ ЛЮБОЎ ДА БЛІЖНІХ

Свята – гэта заўсёды маляўнічае відовішча. Яно падразумявае зносіны людзей паміж сабой і іх творчы ўздзел у мерапрыемстве. Свята дае добры станоўчы зарад. Усе збіраюцца разам, выплюхваюцца агульныя эмоцыі. І гэта ствараe атмасферу ўрачыстасці.

Калі праводзіць разам час, ці абавязкова яго прысвячаць бясконцаму абжорству? Зрабіце традыцыйнай альтэрнатыву звышспажыванню – актыўнае святкаванне, конкурсы, гульні, сумесную творчасць, пазнавальныя паездкі ці прагулкі. Такое святкаванне зможа запомніцца надоўга, зможа стаць пачаткам новага этапа ў вашым жыцці.



### *ЭКВАДОР – НЕЗВЫЧАЙНАСЦЬ СЫРАВІНЫ*

*Кальдэрон, горад недалёка ад Кіто, сталіцы краіны, вядомы сваімі сувенірамі з цеста для хлеба. Цеста вырабляецца розных колераў – пажаданага для кожнай фігуркі. Па тым жа прынцыпе зроблена і дадзеная батлейка. Мініяцюрныя калядныя фігуркі размешчаны ў невялікім плеценым уручную кошыку, які можна размясціць на плоскай паверхні або павесіць як каляднае ўпрыгожанне. Дзіцятка Езус знаходзіцца ў цэнтры ўвагі, а Бэтлеемская зорка прыгожа кладзецца на ручку кошыка.*



### *ЗІМБАБВЭ – З КАМЕНЮ, АЛЕ З ДУШОЙ*

*Ландшафт Зімбабвэ ўсцяж пакрыты камянямі. Сама назва краіны ў перакладзе азначае "каменны дом". Майстэрня пад кіраўніцтвам Джарама Марыгі ў 1958 годзе пазнаёміла Зімбабвэ з мастацкай тэхнікай працы з каменем. З тых часоў мастакі пачаткоўцы сталі дасведчанымі скульптарамі, а іх працы набылі шырокую папулярнасць у Еўропе і ЗША. Асаблівасць дадзенай батлейкі ў тым, што яна выканана з суцэльнага каменю, пасля чаго старанна адпаліравана.*



### *КЕНІЯ – НАЦЫЯНАЛЬНЫ КАЛАРЫТ*

*Ананімны таленавіты рамеснік з Кеніі, які стварыў гэтую батлейку, змог захаваць афрыканскія паставы і жэсты з такой дакладнасцю, што фігуры выглядаюць так, быццам могуць рухацца, калі мы адводзім ад іх позірк крыху ў бок. Пры вырабе выкарыстоўвалася простае валакно з бананавых лісцяў. Дакладнасць, з якой выкананы дробныя дэталі, такія як каралеўскія кароны, дарункі і мудрагелістыя сандалі пастухоў, выклікаюць сапраўднае захапленне. Драўляныя круглыя асновы дадаюць фігуркам устойлівасці. А два афарбаваныя алавяныя дрэвы разбаўляюць кампазіцыю фарбамі.*



### *ІНДЫЯ – МУДРАГЕЛІСТАСЦЬ ФОРМ*

*Медныя палосы ўбіты ў простыя драўляныя бруські, выразаныя па форме калядных фігурак. Тэарэтычна гэтыя блокі можна было б выкарыстоўваць як пячаткі, толькі б дадаць чарніл – такая тэхніка іх выканання. Індыйскія батлейкі не карыстаюцца вялікай папулярнасцю ў свеце, у адрозненне, напрыклад, ад еўрапейскіх ці паўднёваамерыканскіх.*

# ДЗЕНЬ, КАЛІ ЎСЕ ДАРОГІ ВЯДУЦЬ ДАДОМУ



Яна Чайко

У гэты дзень на ўвесь дом пахнуць карп, вушкі з макам і ялінка. У вялікім пакоі стаіць стол з белым абрусам, а на ім аплатка ды свечка, і абавязкова граюць традыцыйныя польскія калядкі, якія пачынае спяваць кожны, хто ўваходзіць у хату. Гэта незвычайны вечар, якога чакаеш кожны год і які заўсёды асаблівы.

Дзве тысячы гадоў таму ў малых яслях нарадзіўся Той, хто на працягу ўсяго гэтага часу аб'ядноўвае людзей па ўсім свеце. Сем'і з'язджаюцца не толькі з розных куткоў Беларусі, але і вяртаюцца з-за мяжы, каб у гэтую асаблівую ноч сказаць адзін аднаму словы "Я цябе люблю" не праз інтэрнэт, але гледзячы ў вочы.

Я ўспомніла мінулы год... Той цяжкі 2020 скончыўся Пастэркай у роднай парафіі. Памятаю, што ў тую ноч як ніколі хацелася данесці людзям, што Святая Любоў ёсць сярод нас. І, можа, толькі на момант, але ўсё роўна атрымалася перастаць думаць аб дрэнным, з'явілася вера ў лепшую будучыню.

Летась на Пастэрцы мы з дзяўчатамі спявалі вядомыя ўсім калядкі, укладаючы ў свае галасы шмат пяшчоты, радасці і любові. Калі жывеш далёка ад дома, падаецца, што тыя казачныя часы юнацкай бесклапотнасці ўжо ніколі не паўторацца. Застаюцца толькі цёплыя ўспаміны з юнацтва.

Кожны год мы з сябрамі і прыяцелямі збіраліся на аплатку, каб шчыра папрасіць прабачэння і сказаць важныя словы, якія па розных прычынах не маглі сказаць раней. Менавіта тады я найбольш адчувала моц супольнасці, у якой расла.

Для меня гэтае свята – свята еднасці, любові і радасці. Свята, калі забываешся пра ўсе клопаты і праблемы. Свята, якое сустракаеш з тымі, каго любіш.

ДАПАМАГЧЫ ДОБРАЙ РАДАЙ

# МЕХАНІЗМЫ СУЖЭНСКАЙ ЗДРАДЫ



Кс. Павел Салабуда, псіхолаг

працяг са с. 1

Жыццё ў шлюбе і сям'і – гэта вельмі сур'ёзны выбар, які не належыць да простых момантаў жыцця. Выбіраючы сужэнства, чалавек павінен быць да яго гатовы, бо бярэ на сябе дадатковае абавязацельства ў выглядзе клопату аб збаўленні жонкі ці мужа.

Сямейны крызіс адчуваецца на кожным кроку. Адным з цяжкіх момантаў, якія прыводзяць да распаду сужэнства і сям'і, з'яўляецца здрада. Нягледзячы на тое, што даследаванні паказваюць, што часцей здраджваюць мужчыны, нявернасць з кожнага боку мае сваю прычыну. Мужчынская здрада часцей за ўсё павярхоўная і выпадковая, у той час як жаночая – гэта, як правіла, моцныя пачуццёвыя адносіны.

Здрада з'яўляецца актам парушэння клятвы вернасці. Сёння, на жаль, цана клятвы знізілася. Маладзі варта з самага пачатку памятаць, што для здрады ніколі не будзе апраўдання. Яна заўсёды становіцца жыццёвай памылкай і трагедыяй. Найчасцей сужэнская нявернасць з'яўляецца эфектам нясталай асобы здрадніка і ўзнікае тады, калі сужэнства перажывае крызіс. На жаль, пасля здрады ўжо вельмі цяжка вярнуцца да такога сужэнскага жыцця, якое было раней. Самае складанае – даравацьь мужу ці жонцы, зноў аказаць ім поўны давер, працягваць разам будаваць дабро сямейнага жыцця і несці адказнасць за сужэнца. Абодва бакі павінны быць настолькі сталымі і адказнымі адзін за аднаго, каб не прывесці потым да балючых сітуацый у сям'і. Каб выключыць такія моманты, варта разгледзець пэўныя механізмы сужэнскай нявернасці. Найлепш, калі маладыя людзі ведаюць пра іх яшчэ да шлюбу, каб пазней не змарнаваць сабе і бліжнім шлюбнае і сямейнае жыццё.

Часцей за ўсё сужэнская здрада можа вынікаць альбо з сексуальных патрэб, альбо з несексуальных матываў.

*1. Здрада, якая вынікае з сексуальных патрэб, мае некалькі прычын:*

- Сексуальная незадаволенасць у адносінах;
- Непрыняцце нормы вернасці.

Перш за ўсё, маладыя людзі, якія маюць намер уступіць у сужэнскі саюз, павінны дасягнуць шлюбнай сталасці. Яны павінны быць здольнымі прымаць рашэнні, выконваць задачы і патрабаванні, звязаныя з жыццём у шлюбе. Сталасць і здольнасць да сталага кахання дапамогуць усвядоміць, што палавыя зносіны могуць быць толькі з сужэнцам. Сюды ўваходзіць павага да цела партнёра, адказнасць за мужа ці жонку, якая вынікае з абяцання захавання вернасці ў адносінах. Элементамі сталай сужэнскай любові будуць блізкасць, выключнасць, спачуванне і адорванне. Варта памятаць, што палавыя зносіны не з'яўляецца ўсёй любоўю паміж мужам і жонкай, яны дапаўняюць сакрамант шлюбу, могуць і павінны быць выяўленнем любові сужэнцаў, каб у будучыні прынесці сваё патомства. Толькі ў шлюбе можна атрымаць сапраўднае сексуальнае задавальненне.

***2. Несексуальнымі матывамі могуць быць, напрыклад, здрада для атрымання матэрыяльнай карысці, здрада як форма атрымання прыняцця, прызнання і задавальнення псіхічных патрэб, як помста за нявернасць партнёра і іны.***

Сужэнцы павінны разам працаваць над стварэннем добрага клімату ў сваёй сям'і, а ў цяжкія моманты разам шукаць рашэнне. У сям'і заўсёды павінна быць камунікацыя, сумеснае планаванне, адказнасць адзін за аднаго і за сваіх дзяцей. Не варта адыходзіць ад сям'і, ад Бога і ад рэлігійных практык.

Перш за ўсё, калі ўзнікла такая складаная сітуацыя, трэба разарваць усе кантакты з палюбоўнікам. Асоба, якая здрадзіла, павінна папрасіць прабачэння ў сужэнца і паспрабаваць як мага хутчэй загладзіць сваю віну. У такой сітуацыі аднаўленне сямейных сувязей цалкам ляжыць на плячах той асобы, якая здрадзіла. Варта сесці і разам мудра пагаварыць пра тое, што прывяло да здрады. Для веруючых сужэнцаў, безумоўна, дапамогай будзе супольная малітва і даручэнне гэтай справы пад апеку Бога. Каб не ўскладніць сямейнае жыццё здрадай, варта зрабіць усё, каб не давесці да яе.

# ЯСЛІ, ПЯЧОРА І НЕБА ЯК СІМВАЛ БЛІЗКАСЦІ БОГА ДА ЧАЛАВЕКА



**"Цудоўны знак бэтлеемскіх ясляў, такі дарагі хрысціянскаму народу, заўсёды абуджае захапленне і здзіўленне".**

*Апостальскі ліст "Admirabile signum" Святога Айца Францішка*

Кацярына Паўлоўская

Цёплыя словы папы Францішка аб яслях. Хоць невялікі, але ўсё ж Апостальскі ліст аб непасрэдным месцы нараджэння Пана Езуса. Як мы разважаем над месцам, у якім ляжыць фігурка дзіцяці ў нашых касцёлах і ў якім дзве тысячы гадоў таму спаў маленькі Езус?

***"З дзяцінства мы вучымся ад бацькоў, а таксама дзядуль і бабуль працягваць гэты радасны звычай, які ўвасабляе багатую народную набожнасць".*** Папа Францішак ужывае прыметнік "радасны". Гэтая характарыстыка сугучная з радасцю ад Нараджэння Хрыста, пра якую часта чуем у нашых касцёлах і якую, перадусім, нясе ў сабе свята Раства.

У той самы час за цёплым настроем гэтай падзеі стаяць не вельмі радасныя, а нават складаныя абставіны нараджэння Езуса. Святы Айцец узгадвае словы з Евангелля паводле св. Лукі: ***"І нарадзіла Сына свайго першароднага. Спавіла Яго і паклала ў яслі, бо не было ім месца ў заездзе" (2, 7).*** Далей Пантыфік піша так: ***"Прыйшоўшы ў гэты свет, Божы Сын быў пакладзены ў тым месцы, куды прыходзяць есці жывёлы. Сена стала першай пасцеллю для Таго, хто аб'явіўся як «хлеб, які сышоў з неба» (Ян 6, 41)".*** Звяртаецца Пантыфік таксама да слоў св. Францішка з Асізі, калі той у італьянскім Грэчы арганізоўваў першую стаенку: ***"Хачу паказаць Яго нягоды і чаго не мела Немаўля; як было пакладзена ў яслі на сена ў суседстве з валом і аслом".*** Літаральнасць і даслоўнасць гучыць у гэтых выказваннях. Разам з Немаўлём у адным "пакоі" знаходзяцца жывёлы…

Якое гэта мае значэнне? Адна з думак, што прыходзяць у галаву ў кантэксце ўзгаданых акалічнасцей, – думка пра блізкасць Бога людзям. У сваім лісце папа Францішак разважае: ***"Чаму бэтлеемскія яслі абуджаюць столькі захаплення і ўзрушваюць нас? Найперш таму, што паказваюць пяшчоту Бога. Ён, Стварыцель сусвету, прыніжае сябе да нашай мізэрнасці".***

Нараджэнне Езуса ў яслях не з'яўляецца папрокам тым, хто прыйшоў на свет у дарагіх пакоях ці ў нармальных, стэрыльных варунках. Кожны чалавек варты годных умоў прыйсця на свет і існавання. Праз месца свайго нараджэння, праз яслі Бог нібы гаворыць: ***"Я разумею цябе ў кожнай жыццёвай сітуацыі".***

Блізкасць Бога да чалавека Папа заўважае ў элементах таго месца, дзе прыйшоў на свет Езус. У начным зорным небе ён бачыць сімвал прысутнасці Бога ў цёмных момантах нашага жыцця: ***"Нават у гэтыя хвіліны Бог не пакідае нас адных і знаходзіцца побач, каб адказаць на галоўныя пытанні, якія датычаць сэнсу нашага існавання. [...] Яго блізкасць нясе святло туды, дзе змрок, і асвятляе тых, хто праходзіць праз цемру цярпення (параўн. Лк 1, 79)".***

У сустрэчы пастухоў са Святой Сям'ёй Пантыфік бачыць адлюстраванне пачатка і характва хрысціянства: ***"Менавіта сустрэча Бога з Яго дзецьмі, дзякуючы Езусу, нараджае нашу рэлігію і з'яўляецца яе непаўторнай прыгажосцю, якая асабліва выразна бачная ў стаенцы".***

У кантэксце ж матэрыяльнага ўбоства "стаенкі" Святы Айцец піша так: ***"Езус, «ціхі і пакорны сэрцам» (Мц 11, 29), нарадзіўся ўбогім, вёў простае жыццё, каб навучыць нас разумець тое, што з'яўляецца галоўным, і жыць гэтым".*** У кантэксце ўбоства тых людзей, фігуркі якіх часта размяшчаюць у стаенках (***"Перадусім жабракоў і людзей, якія не ведаюць ніякіх багаццяў, акрамя багацця сэрца"***), а напэўна і ўлічваючы грамадскія і гуманітарныя крызісы сучаснага свету, Папа дадае: ***"Праз нараджэнне ў яслях сам Бог распачынае адзіную сапраўдную рэвалюцыю, якая дае надзею і годнасць абяздоленым і адкінутым: рэвалюцыю любові, рэвалюцыю пяшчоты. Са стаенкі Езус з лагоднай моцаю заклікае дзяліцца з іншымі, бо гэта шлях да больш чалавечнага і братэрскага свету, з якога ніхто не выключаны і не адкінуты".***

Акалічнасці і ўмовы, у якіх нарадзілася Немаўля Езус, былі складанымі. У разважаннях над гэтым можна і варта знаходзіць таксама месца для роздуму над пачуццямі Марыі і Юзафа, над абставінамі родаў, над тым, якое было надвор'е і як магла выглядаць пячора, у якой нарадзіўся Езус.

Адначасова ў літургічны перыяд Божага Нараджэння больш акцэнт ставіцца на радасці ад гэтай падзеі, радасці для актуальнага чалавека. Як бы больш важным для Бога было тое, што адчуваем мы самыя, для каго Ён і прыйшоў у фізічным целе на Зямлю; што адчуваем з нагоды Яго нараджэння і што выцягваем з гэтага здарэння для сваёй цяперашняй жыццёвай сітуацыі. У гэтым кантэксце ўзгаданая радасць сугучная з аздараўленнем для нашага мінулага, надзеяй для нашай будучыні і натхненнем для дзейнасці ў сённяшнім дні.

ЗАДАЙ ПЫТАННЕ

# Хто можа быць хроснымі?

grodnensis.by

*Патрабаванні, якія ставяцца да хросных, акрэслены ў Кодэксе кананічнага права, у Агульных уводзінах да хрысціянскага пасвячэння і іншых афіцыйных дакументах Касцёла. Гэтыя крытэрыі маюць на мэце, найперш, забяспечыць, каб хросныя былі ў стане сапраўды добра споўніць пастаўленыя задачы і каб іх вельмі важная і адказная функцыя не была проста фікцыяй. Такім чынам, касцёльнае права патрабуе, каб хроснаму было поўных 16 гадоў (дапускаюцца выключэнні па сур'ёзнай прычыне), каб быў католікам, ужо прыступіў да сакраманту канфірмацыі і прыняў сакрамант Эўхарыстыі, вёў жыццё, згоднае з верай і адпаведнае сваёй функцыі, быў вольны ад якога-небудзь кананічнага пакарання, а таксама не быў адным з бацькоў таго, хто прымае хрост.*

*Гэта ўсе крытэрыі, прадугледжаныя касцёльным заканадаўствам. Кананічнае права не забараняе дзвюм парам бацькоў хрысціць адна ў адной дзяцей (г. зв. "перахрышчванне"). Усе меркаванні аб забароне такой практыкі належыць трактаваць як звычайныя забабоны.*

*Патрабаванне, каб хросныя былі каталікамі, вынікае з іх задачы дапамагаць бацькам у выхаванні дзіцяці ў каталіцкай веры. Ясна, што хрысціянін, які не належыць да Каталіцкага Касцёла, не будзе ў стане споўніць гэты абавязак, і нават патрабаваць ад яго такога абяцання было б вельмі неэтычна. Таму касцёльнае заканадаўства пастанаўляе, што хрысціянін, які не належыць да Каталіцкага Касцёла, можа быць толькі сведкам хросту, пад умовай, што хросным з'яўляецца католік або каталічка. Іншымі словамі, дапускаецца сітуацыя, калі на хросце дзіцяці прысутнічае адзін хросны (католік, які адпавядае згаданым вышэй крытэрыям) і адзін сведка хросту (хрысціянін, які не з'яўляецца католікам).*

*Пры выбары хросных варта таксама звярнуць увагу на тое, каб гэта былі практыкуючыя католікі, якія прыступаюць да сакраментаў, вядуць маральнае жыццё. Напрыклад, католік, які жыве ў несакраментальным сужэнскім саюзе, або такі, які называе сябе "веруючым, але непрактыкуючым", або хтосьці, хто, будучы фармальна католікам, вядзе немаральнае жыццё, адасабляецца ад веры і Касцёла, публічна супрацьстаіць асноўным праўдам хрысціянскай веры – не можа быць хросным менавіта таму, што не будзе ў стане даваць свайму хрэсніку прыклад жыцця, згоднага з верай.*

*На заканчэнне яшчэ адна заўвага. Паколькі быць хроснымі – задача прыгожая і ганаровая, то, калі хтосьці нас да гэтага запрашае і калі ведаем, што мы ў стане адпавядаць прадугледжаным правам крытэрыям, не трэба адмаўляцца ад гэтай функцыі, калі не існуе нейкіх важных прычын. Будзем удзячны, што бацькі дзіцяці менавіта нам хочуць даверыць такую ганаровую задачу, і будзем старацца споўніць яе як найлепш, з усёй сур'ёзнасцю, у духу веры і адказнасці.*

# НЕСАМОТНАЕ БОЖАЕ НАРАДЖЭННЕ


vaticannews.va

**“Чалавецтва, Бог цябе любіць і дзеля цябе стаў чалавекам. Ты больш не самотнае!”** – прамовіў папа Францішак у базіліцы св. Пятра ў Рыме падчас св. Імшы Пастэркі на Божае Нараджэнне 2019 года. Папа тады растлумачыў, што гаворка ідзе пра Божую ласку, дадзеную людзям, якая нясе збаўленне. **“Але чым ёсць гэтая ласка? Гэта Боская любоў, якая змяняе жыццё, абнаўляе гісторыю, вызваляе ад зла, напаўняе супакоем і радасцю. У гэтую ноч Божая любоў аб’явілася нам: гэта Езус”,** – дадаў Пантыфік.

**Кс. Павел Эйсмант**

Божае Нараджэнне ўжо здаўна, акрамя рэлігійнага, напоўнена яшчэ адным, дадатковым зместам – гэта сямейнае свята. У адной еўрапейскай краіне з пераважна каталіцкім насельніцтвам аднойчы правялі сацыялагічнае даследаванне па пытанні святкавання Божага Нараджэння, якое паказала, што для большасці яе жыхароў свята носіць найперш сямейны (53% апытаных), а толькі пазней рэлігійны (27%) характар. Зусім невялікі працэнт людзей (ад 0,3 да 2% у розныя гады) перажывалі святы ў поўнай адзіноце.

Католікі ва ўсім свеце не ўяўляюць Божага Нараджэння без святочнага стала (дарэчы, не толькі ў форме вігілійнай вячэры, але і святочнага абеду), елкі, якую ўпрыгожвае ўся сям’я, супольнага спеву калядак, дарэння адзін аднаму святочных падарункаў. У нашай і ў некаторых іншых краінах сімвалам лучнасці ўсіх членаў сям’і з’яўляецца хлеб (аплатка) ці іншы прадукт (напрыклад, у Венгрыі – халва), які прысутныя адламваюць адзін у аднаго, складаючы святочныя віншаванні. Найбольш практыкуючыя з вернікаў ідуць усёй сям’ёй на святочную св. Імшу Нараджэння Пана. Таму перажыванне гэтых свят у супольнасці, можна сказаць, паўсюдна захавалася ў традыцыі вернікаў Касцёла.

Кажучы аб супольнасці, мы не павінны забывацца пра людзей, якія будуць перажываць сёлетнія святы ў самоце. І хоць, калі верыць прыведзенай вышэй статыстыцы, іх няшмат, але само іх існаванне для нас, хрысціян, павінна быць трывожным званочкам. Гэта значыць, што нам нельга іх ігнараваць.

Што гэта за людзі? Гэта, перадусім, тыя, хто стаў самотным па прычыне смерці блізкай асобы, з якой раней жыў разам. Таксама мы можам назваць самотнымі тых, у каго не атрымалася наладзіць добрыя сужэнскія адносіны, тых, каго наведала трагедыя разводу, а таксама тых, каго пакрыўдзілі іншыя, з-за чаго яны закрыліся ў сабе. Іншай катэгорыяй самотных людзей з’яўляюцца тыя, хто ў святы вымушаны працаваць, асабліва за мяжой, удалечыні ад сваіх родных. Некаторыя самі сабе выбралі самотнае жыццё па прычыне будавання сваёй кар’еры, прафесійнага занятку. Але ў большасці, кажучы пра самотных, мы маем на ўвазе людзей сталага ўзросту, удоў і ўдаўцоў, часта вельмі хворых, якія, асабліва сёння, баяцца выйсці з хаты, каб не заразіцца смяротнай хваробай COVID-19, да якіх рэдка прыязджаюць дзеці ці ўнукі або якія ўвогуле іх не маюць. Кожны з вышэй пералічаных людзей у большай ці меншай ступені пакутуе ад адзіноты, нярэдка адчуваючы сябе пакінутым і непатрэбным нават для самых блізкіх.

З тымі, хто сам добраахвотна выбірае самотнасць, усё зразумела. Гэта іх выбар. А што рабіць з асобамі, якія аказаліся адны “з прымусу” жыцця? Якія не маюць чалавека (параўн. Ян 5, 7), з якім маглі б перажыць радасныя святы? Мне здаецца, дзецям не трэба нагадваць пра іх абавязак памятаць і наведваць сваіх бацькоў, гэта відавочная справа. Прыехаць, прыбраць у іх доме, паставіць елку, прыгатаваць стравы… А нават калі самаізаляцыя такіх людзей дзеля захавання жыцця і здароўя становіцца абавязкам і няма магчымасці наведаць іх асабіста, у XXI стагоддзі існуе шмат іншых магчымасцей звязацца з бацькамі, павіншаваць іх са святамі праз тэлефон або нават, калі гэта тэхнічна магчыма, арганізаваць прамы тэлемост пры дапамозе сучасных інтэрнэт-платформ. Падарунак у такой сітуацыі можна выслаць па пошце ці замовіць дастаўку. У любым выпадку лічыцца памяць пра самотных людзей, а таксама аказаная ім увага і добразычлівасць.

А калі ў чалавека няма ані дзяцей, ані ўнукаў? Тады ўвайсці ў ролю апошніх – наш абавязак. З улікам вышэй згаданых засцярог, калі мы гэта зробім, тады для нашых знаёмых станем сапраўды як іх дзеці і ўнясём у іхняе жыццё радасную Бэтлеемскую зорачку цяпла і шчасця, гэты прыгожы дар, які самотныя людзі прымуць з вялікай удзячнасцю. Нездарма існуе даўняя традыцыя пакідаць на вігілійным стале адну пустую талерку – для тых, хто хоча далучыцца, каб разам чакаць Нараджэння Збаўцы.

**“Дарагі брат, дарагая сястра,** – звяртаецца да самотных людзей папа Францішак, – **калі твае рукі здаюцца табе пустымі, калі лічыш сваё сэрца бедным любоўю, гэтая ноч для цябе. З’явілася ласка Божая, каб заззяць у тваім жыцці. Прымі яе, і заззяе ў табе святло Божага Нараджэння”.** Няхай гэты заклік Святога Айца здзейсніцца ў сэрцах усіх, каго разам духоўна злучае Навароджаны Езус!

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

**Кс. Юрый Марціновіч**

***19 снежня – IV Нядзеля Адвэнту***
***Лк 1, 39–45***

Сабраўшыся, Марыя ў тыя дні паспяшыла ў горную краіну, у горад Юды. І ўвайшла ў дом Захарыі, і прывітала Альжбету. Калі Альжбета пачула прывітанне Марыі, узварухнулася дзіцятка ва ўлонні яе, і напоўнілася Альжбета Духам Святым. І ўсклікнула моцным голасам, і сказала: “Блаславёная Ты між жанчынамі, і блаславёны плод улоння Твайго! І адкуль мне гэта, што Маці Пана майго прыйшла да мяне? Бо калі голас прывітання Твайго загучаў у вушах маіх, узварухнулася ад радасці дзіцятка ва ўлонні маім. І шчаслівая тая, якая паверыла, што споўніцца сказанае Ёй Панам”.

### Знайсці Бэтлеем

*IV Нядзеля Адвэнту, якая абвяшчае абяцанне нараджэння Езуса, нагадвае нам, што Бог любіць чалавека і свет бязмежнай любоўю. Гэтая навіна дае надзею і адкрывае перад намі светлую будучыню. Усюды, дзе падводзіць дапамога чалавека, Бог звяртаецца да нас: Я заўсёды з табой.*

*Пакінем у баку ўсе другарадныя пытанні, якія ўскладаюць на нас, каб знайсці самае галоўнае – Бэтлеемскую стайню. “Пойдзем у Бэтлеем і паглядзім, што там адбылося і што абвясціў нам Пан”.*

*Пане Езу Хрысце, дапамагай мне ўвесь час нанова знаходзіць Цябе ва ўсім, што мяне акружае!*

***26 снежня – Свята Святой Сям’і: Езуса, Марыі і Юзафа***
***Лк 2, 41–52***

Бацькі Ягоныя хадзілі штогод у Ерузалем на свята Пасхі. І калі Яму было дванаццаць гадоў, яны прыйшлі паводле звычаю ў Ерузалем на свята. Калі пасля заканчэння дзён свята яны вярталіся, засталося Дзіця Езус у Ерузалеме, і не заўважылі гэтага Ягоныя бацькі. Думаючы, што Ён ідзе з падарожнымі, прайшлі дзень дарогі і тады пачалі шукаць Яго між сваякамі і знаёмымі. Не знайшоўшы, вярнуліся ў Ерузалем, шукаючы Яго. І сталася, што пасля трох дзён знайшлі Яго ў святыні. Ён сядзеў сярод настаўнікаў, слухаючы іх і пытаючыся ў іх. Усе ж, хто слухаў Яго, дзівіліся розуму і адказам Ягоным.

### Сапраўдны фундамент

*Свята Святой Сям’і – гэта дзень падзякі для кожнай сям’і. Вачамі душы мы павінны перанесціся ў Назарэт і ўвайсці ў дом Марыі і Юзафа. Там убачым іх любоў, узаемны клопат і павагу.*

*Як жа такая любоў сёння патрэбна нашым сем’ям і іх членам! Сямейнае жыццё, пабудаванае па ўзоры жыцця Марыі, Юзафа і Езуса, павінна быць жыццём любові – такой любові, якая гатова дараваць і прынесці ахвяру дзеля іншых. Просім, каб асновай нашых дамоў і сем’яў была Святая Сям’я.*

*Пане Езу Хрысце, учыні, каб мая сям’я была школай Евангелля, дзе кожны знаходзіць Цябе!*

***2 студзеня – II Нядзеля пасля Нараджэння Пана***
***Ян 1, 1–18***

Слова сталася целам і пасялілася між намі, і бачылі мы славу Ягоную, славу, якую мае ад Айца Адзінароды, поўны ласкі і праўды. Ян сведчыць пра Яго і ўсклікае, кажучы: “Гэта быў той, пра якога я сказаў: за мною ідзе той, які апярэдзіў мяне, таму што быў раней за мяне”. І з паўнаты Ягонай мы ўсе прынялі ласку замест ласкі. Бо Закон быў дадзены праз Майсея, ласка і праўда сталіся праз Езуса Хрыста. Бога ніхто ніколі не бачыў. Адзінароды Бог, які ва ўлонні Айца, Ён аб’явіў.

### Схіліцца над таямніцай

*Застаючыся ў святле таямніцы Божага Нараджэння, варта ўсведамляць, што Слова прыйшло ў свет для таго, каб аднавіць парушаны парадак, вярнуць сэнс нашым словам і зноў паказаць нам мэту – нашу еднасць з Богам. Мы былі задуманы для яе спрадвеку, і не знойдзем шчасця па-за ёй.*

*Калі мы ўжо насыцілі вочы агеньчыкамі навагодніх елак, перажылі эмоцыі падчас дзялення аплаткай і каледавання ля ясляў, калі заціхлі навагоднія стрэлы петард, феерверкаў і коркаў ад шампанскага, зараз самы час углядзецца ў сэнс таямніцы, схаванай у пасланні “Слова сталася целам”, каб адкрыць сапраўдны сэнс падзей, якая змяніла ход гісторыі і можа змяніць таксама наша жыццё.*

*Пане Езу Хрысце, дазволь мне адкрыць сапраўднае значэнне Твайго прышэсця ў свет!*

# АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

## ВІНШАВАННІ З НАГОДЫ ІМЯНІН

**Паважанаму Ксяндзу Валерыю Лісоўскаму** жадаем здароўя, радасці, моцнай веры, добрых і спагадлівых людзей пабач. Няхай Ваша паслуга прыносіць задавальненне і добры плён, а святы заступнік кожны дзень атуляе сваёй апекай.

Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Вярэйкаў

**Паважанай Сястры Луцыі** жадаем моцнага здароўя, радасці, нястомнага запалу і задавальнення ад выконваемай паслугі, зычлівых людзей, а таксама дапытлівых і адкрытых дзіцячых сэрцаў. Няхай Мрыя атуляе Вас сваёй любоўю і апекай, а святая заступніца знаходзіцца побач.

Парафіяне касцёла св. Казіміра ў Ліпнішках

## ВІНШАВАННІ З НАГОДЫ СВЯТ БОЖАГА НАРАДЖЭННЯ І НОВАГА ГОДА

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу, Ксяндзу Галоўнаму Рэдактару Юрыю Марціновічу і ўсім Ксяндзам, якія раней працавалі ў рэдакцыі**, жадаем, каб навароджанае Дзіцятка Езус дадало Вам сілы, мудрасці і цярплівасці, каб пераадолець усе цяжкасці, а таксама ўмацавала веру, а душу напоўніла радасцю.

Рэдакцыя "Слова Жыцця"

**Іх Эксцэленцыям Ксяндзу Арцыбіскупу Юзафу Станеўскаму, Ксяндзам Біскупам Аляксандру Кашкевічу і Антонію Дзям'янку, Ксяндзу Пробашчу Пятру Кубелю і ўсім Святарам і Сёстрам Гродзенскай дыяцэзіі** жадаем моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, шчасця, радасці, душэўнага супакою, шчырых і верных людзей побач, а таксама шчодрых дароў Святога Духа і блаславлення ад Дзіцятка Езуса.

Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам і парафіяне з Крупава

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу і Ксяндзу Міхалу Ластоўскаму,** апекуну Апостальства дапамогі чыстцовым душам Гродзенскай дыяцэзіі, жадаю добрага здароўя, нязгаснага запалу ў паслузе і зычлівых людзей побач. Няхай навароджаны Езус адорвае Вас бясконцым натхненнем і асвячае Ваш жыццёвы шлях.

Генеральная настаяцельніца Супольнасці Сясцёр Дапаможніц Чыстцовым Душам Ірэна Златкоўская

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу, Ксяндзам Юрыю Марціновічу і Яну Раманоўскаму** жадаем дароў Святога Духа, апекі Маці Божай, моцнага здароўя, шчасця, спакойных дзён, мудрасці і поспехаў. Няхай Бэтлеемская зорка асвячае Ваш шлях, а Дзіцятка Езус дае сіл і цярплівасці ў складаныя хвіліны.

Апостальства "Маргарытка" і Легіён Марыі з парафіі св. Яна Паўла II у Смаргоні

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Віталію Чургану** жадаем моцнага здароўя, доўгіх і шчаслівых гадоў жыцця, шчодрых Божых ласкаў і апекі Маці Божай. Няхай Яна будзе побач з Вамі ўсё жыццё!

Ружанцовае кола Маці Божай Тракельскай і парафіяне з Юрацішкаў

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Ластоўскаму** жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, шмат радасці, шчодрых Божых ласкаў, добрых і зычлівых людзей на жыццёвым шляху. Няхай навароджаны Хрыстос блаславляе і ахоўвае Вас.

Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам Гродзенскай дыяцэзіі і Андрэй Слонімец

**Дарагому Ксяндзу Паўлу Эйсманту** жадаем, каб Цябе заўсёды акружалі прамяні Божай міласэрнасці, моц Святога Духа і апека Найсвяцейшай Панны Марыі. Няхай Езус Хрыстус Валадарыць у Тваім сэрцы, а святы заступнік заўсёды будзе побач.
З нагоды дня нараджэння жадаем таксама, каб здароўе было моцным, сіла – бясконцай, а радасць – штодзённай!

Мама, тата і брат з сям'ёй

**Паважанаму Айцу Пробашчу Антонію Пажэцкаму** жадаем, каб навароджаны Хрыстос узбагаціў Ваша сэрца сваёй ласкай ды адарыў здароўем і блаславленнем. Дзякуем за паслугу ў нашай парафіі і цудоўны прыклад веры.

Парафіяне касцёла св. Францішка з Асізі, г. Свіслач

**Паважанаму Айцу Валерыю Шэйгерэвічу** жадаем добрага здароўя, цярплівасці, стойкасці ў святарскай паслузе. Няхай навароджаны Хрыстос адорвае патрэбнымі ласкамі, а Маці Божая заўсёды апекуецца Вамі.

Былыя парафіяне

**Паважанаму Ксяндзу Зянону Рамейку** жадаем, каб Бэтлеемская зорка асвячала Ваш шлях, Дзіцятка Езус адорвала супакоем, любоўю і радасцю, а Маці Божая апекавалася ў кожную хвіліну жыцця.
З нагоды імянін жадаем таксама здароўя, доўгіх гадоў жыцця, супакою і ясных дзён у святарскай паслузе, а таксама зычлівых людзей побач.

Ружанцовыя колы і члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Астрыны

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Яну Пузыну, Аляксандру Пятровічу, Юрыю Садоўскаму і Эрнэсту Мікалайчыку** жадаем, каб навароджаны Збаўца, які нясе супакой усяму свету, адарыў Вас сваімі дарамі: здароўем, радасцю і душэўным супакоем. Няхай Пан Бог вядзе Вас праз жыццё і дапамагае пераадольваць усе цяжкасці.

Вернікі парафіі св. Міхала Арханёла ў Ашмянах

**Паважаным Айцу Пробашчу Вальдэмару Слоту, Ксяндзу Леону Лішку і Сястры Мір'ям** жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, бясконцай радасці з плёну сваёй працы, добразычлівых людзей на жыццёвым шляху, шчодрых ласкаў ад Дзіцятка Езуса і сталай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі.

Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Вялікай Бераставіцы

**Паважаным Ксяндзам Артуру Малафею і Міхалу Ластоўскаму** жадаем моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, спакойных і ясных дзён у святарскай паслузе, душэўнага супакою, добрых людзей побач і мноства ласкаў ад навароджанага Хрыста.

Вернікі парафіі Гродна-Аўгустовак

**Паважаным Ксяндзам Віктару Захарэўскаму, Здзіславу Пікулу і Паўлу Звяжынскаму** жадаем моцнага здароўя, спакойных і ясных дзён. Няхай Бэтлеемская зорка асвячае Ваш шлях, Дзіцятка Езус адорвае сваімі ласкамі і блаславленнем, а Найсвяцейшая Маці вядзе да святасці і нястомна апекуецца Вамі.

Парафіяне з Варнянаў і Вароны

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Яну Этэлю, Аляксею Венцкевічу і Генадзю Лаўніковічу, Дыякану Валерыю Пупкевічу, Сёстрам Дароце і Аўгустыне, Арганістцы Юліі** жадаем, каб навароджаны Езус Вас блаславіў, адарыў сваімі ласкамі, умацаваў сваёй любоўю і моцай, каб Вы стойка ішлі па абранай жыццёвай дарозе, служачы Богу і людзям.
Ксяндзу Пробашчу з нагоды дня нараджэння жадаем таксама моцнага здароўя на доўгія гады жыцця і добразычлівых людзей побач.

Касцёльны камітэт і парафіяне, Гродна-Вішнявец

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Канапельку** жадаем, каб навароджаны Пан Езус адарыў Вас сваімі дарамі, моцным здароўем, радасцю, супакоем у душы, а таксама дабрынёй і людской добразычлівасцю, а Маці Божая няспынна Вамі апекавалася на шляху жыцця.

Парафіяне з Поразава

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Безляповічу** жадаем здаровых, радасных, поўных цеплыні і спакою свят Божага Нараджэння, а таксама поспехаў і Божага блаславлення на кожны дзень новага года.
З нагоды 8-ай гадавіны святарскага пасвячэння жадаем душэўнага супакою, сапраўднай радасці, моцнай веры, непахіснай надзеі і шмат сіл, каб ісці выбраным шляхам.

Вернікі парафіі Мсцібава

**Паважаным Ксяндзам Валерыю Спірыдону, Юрыю Канапельку і Андрэю Пышынскаму** жадаем прыемных, радасных, поўных надзеі і дабрыні свят Божага Нараджэння і шчаслівага, багатага на Божыя дары і ласкі новага 2022 года.

Былыя парафіяне са Мсцібава

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Беланосу** жадаем, каб заўсёды хапала сіл, запалу і стойкасці ў душпастырскай паслузе, кожная хвіліна жыцця была радаснай і блаславлёнай, а навароджанае Дзіця Божае адорвала ўсімі патрэбнымі ласкамі.

Парафіяне з Макараўцаў

**Дарагому Ксяндзу Вячаславу Матукевічу** жадаем, каб навароджаны Збаўца адарыў Цябе здароўем, сілай, радасцю, добразычлівасцю людскіх сэрцаў, супакоем і моцнай верай. Радасных Свят і шчаслівага новага года!

Мама і тата

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Паўлу Скубу і Віктару Захарэўскаму** жадаем, каб навароджанае Дзіцятка Езус адорвала Вас сваімі ласкамі, напаўняла спакоем, радасцю, любоўю і блаславляла кожны дзень, каб Марыя заўсёды апекавалася, а Бэтлеемская зорка паказвала шлях да Пана.

Вернікі з Раготна

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Павайбу** жадаем, каб святло Хрыста асвячала святарскі шлях, Марыя Панна і Анёлахоўнік няспынна Табой апекаваліся, а з твару не знікала шчаслівая ўсмешка.
З нагоды дня нараджэння жадаем таксама, каб здароўе было моцным, сілы – бясконцымі, а радасць – штодзённай.

Родныя

**Паважаным Ксяндзу Каноніку Віктару Субелю, Сёстрам Ганне і Агнешцы, Кансэкраваным Удовам Сабіне і Зоф'і** жадаем, каб навароджаны Хрыстос блаславляў кожны Ваш дзень, Маці Божая ахінала сваёй апекай, а Святы Дух нястомна адорваў сваімі ласкамі. Жывіце ў здароўі і радасці, а сэрцы няхай будуць напоўнены супакоем і любоўю.

Касцёльны камітэт і парафіяне з Трабаў

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Рудзевічу** жадаем, каб Бог блаславіў Вас на кожны дзень, адарыў сілай, цярплівасцю, вытрымкай і адвагай. Няхай ніколі не згасне Ваша руплівасць на ніве Пана, палымянасць у малітве, цеплыня і любоў, якімі дзеліцеся з намі.

Парафіяне з в. Старое Сяло

**Паважанаму Ксяндзу Дзянісу Шмыгіну** жадаем радаснага чакання і гатоўнасці прыняць Божага Сына, а таксама здароўя, доўгіх гадоў жыцця, добразычлівых людзей побач, плённай душпастырскай паслугі, Божага блаславлення і апекі Панны Марыі.

Парафіяне з Міжэрычаў

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Безляповічу** жадаем Божага блаславлення, моцнага здароўя, шчодрага плёну ў паслузе на ніве Пана, а таксама Божай дапамогі на святарскім шляху і апекі Панны Марыі на кожны дзень.

Вернікі капліцы Вердамічы

**Паважаным Ксяндзам Юрыю Канапельку, Андрэю Пышынскаму і Валерыю Спірыдону** жадаем шчодрых Божых ласкаў і доўгіх гадоў жыцця. Няхай Езус заўсёды будзе Вашым Сябрам, Святы Дух асвячае кожны дзень, Маці Божая прытуляе да свайго сэрца, а святыя заступнікі нястомна апекуюцца.

Былыя парафіяне з капліцы Вердамічы

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Канапельку** жадаем шчодрых дароў Святога Духа, сталай апекі Найсвяцейшай Маці, доўгіх гадоў жыцця, моцнага здароўя і патрэбных Божых ласкаў.

Вернікі капліцы Верабейкі

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Яну Радзюку, Тадэвушу Крыштопіку, Паўлу Звяжынскаму, Паўлу Урбану і ўсім Ксяндзам, якія працавалі ў нашай парафіі,** жадаем блаславлення ад Божага Дзіцяці, няспыннай апекі Панны Марыі, шчодрых дароў Святога Духа, нязгаснага запалу ў абвяшчэнні Божага слова, моцнага здароўя, душэўнага супакою і зычлівых людзей побач.

Вернікі парафіі св. Юзафа ў Гродне

**Паважаным Ксяндзу Пробашчу Яну Кучынскаму і Спадару Старшыні Тадэвушу Жукоўскаму** жадаю шчасця, радасці, моцнага здароўя, шчодрых Божых ласкаў і апекі Найсвяцейшай Маці. Няхай навароджанае Дзіцятка Езус блаславляе і ўдзяляе свае дары. Аддзяч Вам Бог за Вашы чулыя сэрцы і адданую паслугу.

Парафіянка гродзенскай катэдры Пелагея

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Антонію Казлоўскаму** жадаем моцнага здароўя, спакойных і ясных дзён у святарскай паслузе, душэўнага супакою і цярплівасці. Няхай Дзіцятка Езус блаславляе, Маці Божая аберагае ад нягод, а Бэтлеемская зорка асвячае шлях да Пана.

Вернікі з в. Малінавая

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Здіславу Пікулу, Казіміру Мураву, Алегу Жураўскаму, Артуру Ляшнеўскаму і Сястры Караліне** жадаем, каб Дзіцятка Езус адорвала Вас супакоем і радасцю, Маці Божая нястомна апекавалася, а Святы Дух спасылаў свае дары. Жадаем шчасця, здароўя на доўгія гады жыцця, стойкасці і ясных дзён.

Парафіяне з Дзятлава

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Антонію Філіпчыку, Юрыю Садоўскаму і Яўгену Ціхану, Сёстрам Мір'ям, Наталлі, Ліліяне і Антаніне** жадаем моцнага здароўя, аптымізму, дароў Святога Духа, мноства шчаслівых і сонечных хвілін. Няхай навароджаны Хрыстос адорвае Вас сваімі ласкамі і блаславленнем, а Найсвяцейшая Маці дадае сіл служыць Богу і людзям.

Парафіяне, Францішканскі ордэн свецкіх і Ружанцовыя колы парафіі св. Вацлава ў Ваўкавыску

**Паважаным Айцу Пробашчу Аляксандру Махначу, Дыякану Аляксанру Гецевічу і ўсім Айцам Піярам** жадаем, каб навароджанае Божае Дзіцятка адарыла Вас сваімі ласкамі і напоўніла сэрцы супакоем, радасцю і любоўю, а Найсвяцейшая Панна Марыя штодзённа апекавалася Вамі ў новым годзе.

Вернікі парафіі Ліда-Індустрыяльны

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Барташэвічу** жадаем здароўя, душэўнага супакою і радасных дзён. Няхай Дзіцятка Езус блаславляе Вас і адорвае сваімі ласкамі, Найсвяцейшая Маці ахінае апекай, а Бэтлеемская зорка асвячае святарскі шлях.

Парафіяне і Ружанцовыя колы з Жырмунаў

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яўгену Учкуронісу** жадаем, каб Бэтлеемская зорка заўсёды асвячала Ваш шлях і дапамагала весці да навяртання тых, хто не ведае Хрыста. Няхай Дзіцятка Езус адорвае Вас здароўем, спакоем, любоўю і радасцю, а Маці Божая апекуецца ў кожную хвіліну жыцця.

Легіён Марыі, апостальства "Маргарытка", Маці ў малітве, Ружанцовыя колы і вернікі парафіі св. Яна Паўла II у Смаргоні

**Паважаным Ксяндзам Дзмітрыю Урбановічу, Віталію Цыбульскаму, Юрыю Ёдзіку, Аляксандру Вараб'ёву, Артуру Валчкевічу, Алегу Яновічу, Віталію Валюку, Анджэю Ганчару і Сястры Магдаліне Кулай** жадаем здароўя, радасці, аптымізму, душэўнага супакою і Божага блаславлення ва ўсім. Няхай Дзіцятка Езус адорвае Вас спакоем і любоўю, Маці Божая прытуляе да свайго сэрца, а Бэтлеемская зорка асвячае Ваш шлях.

Былыя парафіяне са Смаргоні

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Скубу** жадаем, каб навароджаны Збаўца адорваў Вас супакоем і любоўю, Маці Божая вяла найпрыгажэйшай дарогай жыцця, Святы Дух спасылаў свае дары, а побач былі толькі добразычлівыя людзі.

Вернікі парафіі Дварэц

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Захарэўскаму** жадаем моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, радасці, душэўнага супакою, шмат сіл і стойкасці ў душпастырскай працы, блаславлення ад Дзіцятка Езуса і няспыннай апекі Маці Божай у кожную хвіліну жыцця.

Былыя парафіяне з Дварца

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Раманоўскаму** жадаем моцнага здароўя, шчасця і доўгіх гадоў жыцця, Божага блаславлення і міласэрнасці, а таксама шчодрых дароў Святога Духа. Няхай святло Бэтлеемскай зоркі свеціць Вам сярод зямной вандроўкі, а новы год прыносіць бляск Божай ласкі.

Парафіяне касцёла свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Граўжышках

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Алегу Канановічу** жадаем, каб навароджанае Дзіцятка Езус адорвала Вас сваімі ласкамі, напаўняла спакоем, радасцю, любоўю і блаславляла кожны дзень, Маці Божая апекавалася Вамі, а Бэтлеемская зорка ўказвала найлепшую дарогу да Пана.

Ружанцовае кола св. Яна Непамуцкага і вернікі са Станевічаў

**Паважаным Ксяндзу Каноніку Яну Рэйшалю, Сястры Ганне Насевіч і Арганістцы Ганне Стасевіч** жадаем, каб маленькі Езус прытуліў Вас да свайго сэрца і блаславіў, Найсвяцейшая Маці ахінала апекай, а Святы Дух апрыменьваў сваім святлом. Жадаем таксама моцнага здароўя, Божай міласэрнасці, аптымізму і душэўнага супакою.

Вернікі капліцы Ліпічна

***Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.***

У сувязі са святамі Нараджэння Пана і Новым годам чарговы нумар газеты "Слова Жыцця" выйдзе 9 студзеня 2022 года.

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі Слова Жыцця; галоўны рэдактар – кс. Юрый Марціновіч;
заснавальнік – Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія; год заснавання – 1997; рэгістр. №1085; выдавец – курыя Гродзенскай дыяцэзіі.
Рэдакцыя газеты: 230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4; тэл. (80152) 61-05-37; (8029) 571-30-77 (мтс); e-mail: slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.
Друк: ААТ "Брэсцкая друкарня" Рэспубліка Беларусь, 224013, г. Брэст, пр. Машэрава, 75; нумар заказу 4358; тыраж 4700; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты.
Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная.